Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грош.

# СЕЛЯНІН

АДНАДНЁЎКА

Вільня, субота, 8-га жніўня 1925 г.

## У адзінаццатыя ўгодкі сусьветнае вайны.

4 жніўня мінула ўжо 11 гадоў ад распачацьця сусьветнае вайны, што крывёй народаў заліла ўвесь сьвет.

Тады, калі пачуліся першыя стрэлы на палёх бітв, вінавайцы крывавае бойні кінулі ў народныя масы баламутны, але як-жа заманчывы кліч: „*вайна—вайне*“! Тым міліёнам сялян і работнікаў, якіх адарвалі ад сахі і станка, ды ўткнулі ў рукі забойчае аружжа, гаварылі пры гэтым, што яны ідуць у бой дзеля таго, каб іх унукі і праўнукі ня бачылі больш гэткіх страшэнств, што гэтая вайна дык ужо напэўна *паложыць канец усім войнам наагул і заўсёды*...

Нічога падобнага ня сталася. Наадварот: Вэрсальскі мір, на якім дзяржавы—пераможцы рэзалі карту Эўропы праз цела жывых народаў, стварыў падставы ня дзеля трывалага — „вечнага“ міру, а дзеля *новых войн* і новага, яшчэ страшнейшага, праліцьця крыві.

Сёмы год мінае ад мамэнту падпісаньня Вэрсальскага трактату. І кожны год усё балей і балей набліжае новую бойню.

Праўда, дзяржавы — пераможцы робяць цяпер крокі ў тым кірунку, каб *ухіліць магчымасьць вайны паміж Францыяй і Нямеччынай.* Пагроза гэткай вайной у роўнай меры цяжка адбіваецца на эканамічным палажэньні ня толькі пабітае Нямеччыны, але і самых пераможцаў. І вось—пад націскам сваіх капіталістаў, якім гэты стан перашкаджае павялічываць свае даходы, урады Англіі, Францыі і Нямеччыны згаварываюцца, каб не дапусьціць да новае вайны *паміж імі* — коштам малых дзяржаў, а перад усім Польшчы.

Але ёсьць і другая прычына такога „міралюбства“ пералічаных дзяржаў. Гэта—*страх* перад тым, што той вялізарны пераварот, які стаўся на землях былой Расейскай імпэрыі, зьнішчыўшы тамака стары капіталістычны лад, можа перакінуцца і далей на Захад. Гэта — пачуцьцё небясьпекі і з боку „каляровых“ народаў Азіі і Афрыкі, якія — пад уплывам выпадкаў у СССР—паўстаюць проці сваіх белых валадароў і выганяюць іх з сваей зямлі. А ўтрата заморскіх калёніяў--гэта-ж для англійскага і францускага капіталу — нямінучая сьмерць! Дык англійскі і францускі ўрады і хочуць дайсьці нейкае больш трывалае ўгоды з Нямеччынай, *каб мець вольныя рукі, а мо‘ і дапамогу ў барацьбе з Саюзам Сацыялістычных Радавых Рэспублік.*

У адзінаццатыя ўгодкі сусьветнае вайны ня толькі ліецца кроў у францускім і гішпанскім Марокко, ня толькі йдзе крывавая барацьба ў Кітаю, але падрыхтовываецца і *вялікае аружнае выступленьне аб‘яднанага эўрапэйскага капіталу проці радавых рэспублік на Усходзе....*

Так выглядае на дзеле „вайна вайне“, аб якой так крывадушна гаварылі ўрады старое Эўропы сваім народам, каб павясьці гэтыя народы на аружны захват чужых зямель...

Але кліч „вайна вайне“, хоць яго гэтак надужылі вінавайцы сусьветнае вайны, ад гэтага надужыцьця ня ўтраціў сваей прывабліваючай сілы. Наадварот: яго падхапілі працоўныя масы і напісалі на сваіх сьцягах, выступаючы на барацьбу з тымі, хто іх тады так нягодна ашукаў, хто і цяпер рукамі сялян і работнікаў, ды крывёй малых народаў — Польшчы, Латвіі, Эстоніі і другіх суседзяў СССР,—маніцца *затушыць полымя сацыяльнае рэвалюцыі, якое палае на Усходзе.*

„Вайна вайне“—гэты кліч гожа і нам прыпомніць у гадавіны сусьветнае вайны, бо ў гэты мамэнт *ваенны пажар пагражае захапіць ізноў нашу многапакутную, не пасьпеўшую яшчэ адхапіцца ад мінулых ваенных разгромаў, Беларусь.*

## Сьмяротны грэх проці адзінства беларускае культуры.

Некалі польскі народ, падзелены трыма наймагутнейшымі ў Эўропе дзяржавамі, ня гледзячы на ўсе гранічныя межы і загародкі, меў сілу стварыць высокую культуру, якой толькі і жывуць сучасныя пакаленьні незалежнае і аб‘яднанае, але з пагляду культрнае творчасьці даволі бясплоднае Польшчы...

Вось, як да сусьветнае вайны падзелены быў народ польскі, так пасьля вайны падзеленым аказаўся народ беларускі, і... ў падзеле яго чыннае ўчасьце прыняла гэтая самая Польшча. І вось, памятаючы, як тры „заборцы“ пільна глядзелі, каб тры часьціны польскага народу не аб‘ядналіся ў адзінай ідэі і ў супольнай працы над тварэньнем агульна-нацыянальнае культуры, — польскія валадары Заходняе Беларусі паступаюць з намі так, як калісь з палякамі паступаў самадзяржаўны расейскі ўрад....

Спыненьне ўсялякіх зносінаў паміж Заходняй і Усходняй Беларусяй, — калючыя дроты на граніцы, праведзенай праз жывое цела беларускага народу,—яшчэ больш „калючыя“ дроты цэнзуры, якая зачыняе доступ на Захад беларускай кніжцы, друкаванай на Усходзе,—усё гэта стварае вялікія перашкоды дзеля супрацоўніцтва на груньце тварэньня адзінае беларускае культуры абедзьвух галоўных часьцін нашае Бацькаўшчыны. Імкненьне польскага ўраду замест нашага гістарычнага правапісу — так-званае „гражданкі“, або „кірыліцы“ — завясьці ў беларускіх школах і друку лацінскія літары — гэта так-сама насьледаваньне расейскага царскага ўраду, які, наадварот, пробаваў гвалтам прымусіць літоўскі народ зрачыся лацінікі і прыняць чужую яму „гражданку“....

Але ўсе гэтыя **мэханічныя** перашкоды аб‘яднаньню ўсяго беларускага народу ў тварэньні нацыянальнае культуры, як паказаў прыклад польскага народу, ня гэтак страшныя, як-бы магло здавацца на першы пагляд. Пакуль жывы ў народзе, хоць-бы і падзеленым на часьці, **адзіны дух**, датуль народ зьяўляецца адзіным і непадзельным, ня гледзячы на ўсе гранічныя загарадкі. А каб гэткі адзіны дух істнаваў у беларусаў, патрэбна **адзіная воля** ў-ва ўсіх „заборах“. І ня ворагі нам тутака небясьпечны і страшны, а небясьпечны і страшны тыя сыны нашага народу, якія грашаць проці тэй адзінай волі.

З вялікім сумам трэба адзначыць, што праступнікі проці адзінства беларускае культурнае творчае працы — мо‘ часамі й ня зусім сьвядомыя—ёсьць ужо сярод беларускага грамадзянства і ў Польшчы, і ў Літве, і ў Латвіі.

Пакуль так-званая „польская“ партыя сярод беларусаў, што пад Польшчай (мімаходам будзь сказана: зложаная з элемэнтаў, маральна брудных!), толькі йшчэ „расьпіналася“ ў сваей ляяльнасьці да Польскае дзяржавы, — яна не зварачала на сябе вялікшае ўвагі: ніякага ўплыву на беларускі народ яна ня мела і ня мае. Але цяпер, калі „дзеячы“ з гэнае партыі стараюцца—карыстаючыся дадзенымі ім уладай „прывілеямі“ — увадзіць у народ праз школу і асьвету — пад відам „барацьбы з бальшавізмам“—варожыя адносіны да ўсходніх беларусаў і ўсяе вялікае культурнае беларускае працы на Усходзе, — дык трэба з усей вострасьцяй кляйміць гэта, як небясьпеку дзеля адзінства беларускага народу.

Калі некаторыя беларускія дзеячы ў Коўні стараюцца падзяліць адзіны дагэтуль беларускі рух на нейкія дробныя пляменныя „крыўскія“ рухі і гэтак аслабіць адзіную ўсебеларускую волю да адраджэньня роднае культуры,—дык гэта такі-ж самы сьмяротны грэх проці беларускага народу;— тым балей, што мы бачым ужо і на дзеле спробы адкалоць ад беларускага руху нашу моладзь у Празе і ў Латвіі пад новым, нікому непатрэбным і шкодным сьцягам пляменнага падзелу.

Ня меншы грэх і тых беларусаў у Латвіі, якія, перапалоханыя палітычнымі працэсамі проці беларускіх культурных дзеячоў і высылкай найбольш цэнных беларускіх працаўнікоў з межаў Латвійскае рэспублікі, пайшлі па дарозе ўжо не палітычнага, а культурнага згодніцтва з латышамі. Так, у Рызе нядаўна заснавалася „Рыжскае Беларускае Прасьветнае Т-ва—„Беларуская Хата““ (—нешта, кшталтам віленскае „Прасьветы“!), мэтай якога зьяўляецца: „§ 2, а) аб‘яднаць беларускую нацыянальную меншасьць Рыгі і ўсяе Латвіі на здаровых культурна-нацыянальных падставах працы й рупіцца аб найшчыльнейшым і таварыскім зблізкэньні з латышскімі грамадзкімі працаўнікамі, каб узгадаваць новае беларускае пакаленьне ў **духу каханьня й прэданасьці да Латвіі й латышскае культуры**“, а также „в) і г) дапамагаць адраджэньню беларускае нацыянальнае культуры і **стасаваць яе да латышскае культуры**“....

Вось гэтае „стасаваньне“ беларускае культуры ў кожным з „забораў“ да культуры пануючае нацыі—гэта-ж і ёсьць найгоршы праступак проці свайго народу. Гэта праступак ня проці насяленьня толькі тэй ці іншай **часьці** Беларусі, а **праступак проці беларускага народу ў яго цэлым, проці самае беларускае нацыянальнае ідэі.**

Народ, у якога няма адзінага нацыянальнага ідэалу, гэта не народ, а грамада нейкіх жыхараў данае краіны—бяз ніякага аблічча. Да такога стану вядуць наш народ усе тыя, што стараюцца „стасаваць“ нашу культурную працу да культуры „паноў палажэньня“....

*Гданск,* **Юрка Гарэлік.**

## Швайцарскі голас аб Вільні.

Рэдактар жэнеўскае газэты „Journal de Geneéve“ п. Мартэн, які нядаўна прыяжджаў у Вільню — асабіста пазнаёміцца з „віленскім пытаньнем“ у гутарках з дзеячамі ўсіх нацыянальнасьцяў, надрукаваў цяпер абшырную стацьцю ў сваей часопісі, пасьвячоную справе Клайпэды і Вільні.

Мы ня маем гэтае стацьці ў арыгінале і пазнаёміліся з ёю толькі ў перакaзе польскае прэсы. Ня ведаем, наскольки точны гэты пераказ, і бярэм толькі некалькі думак, высказаных п. Мартэнам.

Шкадуючы, што землі Літвы і Віленшчыны, так неабходныя сабе ўзаемна дзеля эканамічных прычын, аказаліся падзеленымі аружным выступленьнем ген. Жэлігоўскага (—па прыказу марш. Пілсудскага!), пан Мартэн усё-ж ня лічыць слушным дамаганьне Літвы, каб Вільня была ей аддадзена. **„Паскольку Віленшчына не зьяўляецца польскай, дык яна—беларуская. А беларусы ў роўнай меры ня хочуць слухаць аб Літве, як і аб Польшчы“**?

Гаворачы далей, што літвіны ня хочуць гадзіцца з Польшчай, спадзяючыся, што польска-расейская ці польска-нямецкая вайна дасьць ім Вільню,—п. Мартэн кажа, што спадзяваньні Літвы — беспадстаўныя. Бо **„калі Расея некалі захопіць Вільню, дык ня дзеля таго, каб аддаць яе Літве“.**

Як ведама, **сучасная** Расея, залічае Вільню да Заходняе Беларусі!...

„Kur. Wil.“, за якім падаем гэтыя выметкі з стацьці п. Мартэна, на пачатку піша, што ацэнка палажэньня, дадзеная швайцарскім журналістам,—наагул **зусім трафная.**

## Польскія „сацыялісты“ у ролі „абаронцаў сельскага пралетарыяту“!...

Крывадушная і здрадлівая праца польскіх „сацыялістаў“ („пэпэсаў“) проці сялянства і сельска-гаспадарскіх работнікаў у Польшчы вядзецца далей,—як быццам па заказу ўраду братоў Грабскіх, асабліва падтрымліванага і капіталістамі і гэтымі панамі „пэпэсамі“.

„Кіраўніцтва“ пэпэсаў забастоўкай сельска-гаспадарчых работнікаў (парабкоў) на Паморыі і ў Кангрэсоўцы (ў Варшаўшчыне“)—найляпей паказывае, як спрытна і цынічна прадае гэтая партыя інтэрэсы ўцісканых клясаў, якія яна быццам (дзеля польскіх мандатаў!) прадстаўляе і бароніць.

Як ведама, адложаная да часу жніва забастоўка сельска-гаспадарчых работнікаў раптам была стрымана пэпэсаўскім Галоўным Урадам „Прафэсіянальнага Саюзу Сельскіх Работнікаў“—якраз у той мамэнт, калі пачалося жніва, **у мамэнт, найбольш выгадны для работнікаў** і найбольш нявыгадны для абшарнікаў, бо апошнія былі-б змушаны—каб ня меч вялікшых стратаў—згадзіцца на вельмі скромныя дамаганьні работнікаў.

Пэпэсы зрабілі гэта па намове ўраду братоў Грабскіх, які „за гэта“ (!) абяцаў работнікам... стварыць „разьемчую камісію“ — з прадстаўнікоў ураду, абшарнікаў і работнікаў (? пэпэсаў!) — з тым, каб яна „вырашыла справу спору“.

І вось, **атрымаўшы толькі гэтую абяцанку ад ураду**, пэпэсы выдалі загад работнікам—разброіцца і палажыць аружжа ў найвыгаднейшы для іх мамэнт бою...

• Час хутка пацьвярдзіў усю недарэчнасьць гэткага „даверыя“ ўрадавых сацыялістаў да свайго ўраду коштам работнікаў.

25 ліпня ўрад назначыў „Надзвычайную Разьемчую Камісію“ з 3 прадстаўнікоў розных міністэрстваў — якраз такую-ж самую камісію, якая была назначана вясной 21 сакавіка, і **пастановы якой у справе спору работнікаў з абшарнікамі, прыхільныя да абшарнікаў, і выклікалі вясеньнюю забастоўку**, таксама, як і цяпер, правaленую пэпэсамі.

Урад навет назначыў у гэтую „новую“ камісію некаторых сяброў, якія ўжо выклікалі вясной страшэннае абурэньне работнікаў, выліўшаеся нарэшце ў забастоўку... Што датычыць абшарнікаў, дык тыя зусім **не паслалі да яе сваіх прадстаўнікоў**, ведаючы добра, што іх інтэрэсы найляпей абароняць у камісіі... самі прадстаўнікі ўраду — разам з пэпэсамі, якія крэпка стаяць „на груньце дзяржаўнага (чытай: абшарніцкага) інтэрэсу“.

Гэткай сваей тактыкай абшарнікі сарвалі камісію.

Гэткім чынам чыста ўрадавая „разьемчая“ (?) камісія пачала працаваць. **А пакуль што найважнейшая першая палова жніва** (азімны, пшаніца і жыта) праходзіць. *) Пасьля-ж, зразумела, абшарнікі зробяцца яшчэ больш няўступчывымі. Вось, як спрытна і тут, як усюды і заўсёды, „сацыялістычныя“ сынкі польскіх абшарнікаў ізноў адратавалі сваім бацьком іх абшарніцкую справу.

І калі, ведаючы ўсё гэта, ізноў бачыш на загалоўку газэтнага органу „Польскай Партыі Сацыялістычнай“—(„Robotnik“) надпіс—лёзунг: „Niech żyje rząd Robotniczo-Włościański“! („Хай жыве Работніцка-Сялянскі ўрад“), дык папросту ня ведаеш, ці ёсьць наагул якія граніцы і межы чалавечага цынізму, крывадушнасьці і фальшу!..

Асабліва цікава, што на першым-жа паседжаньні гэтай „камісіі“ пан прэзэс Праф. Саюзу Польскіх Работнікаў пас. Квапіньскі (пэпэсавец) патрэбаваў, каб урад адклікаў аднаго з сваіх прадстаўнікоў, нейкага п. Убыша, былага сябры вясеньняй „камісіі“.. Як аказалася (толькі цяпер?!), гэты сябра-камісіі (прадстаўнік міністэрства хлебаробства) **сам—вялікі абшарнік**, і „дзеля гэтага ня можа быць бесстароным судзьдзёй у спорцы між абшарнікамі і работнікамі“.. Але гэты ўрадавы „судзьдзя разьемчы“ п. Убыш аказаўся ня толькі абшарнікам, але яшчэ і **злосным, заядлым абшарнікам, бо—навет засуджаным у сваім паветавым разьемчым судзе за крыўды сваім работнікам і за ламаньні дабравольных умоваў з імі**—на заплату ім каля 500 злотыхстратаў. Усё гэта сцьвярдзіў п. Квапіньскі.

Што-ж адказаў абураным (?) панам пэпэсам старшыня камісіі на гэтую слушную, але спозьненую заяву?—Ды нічога: бо папросту **ня даў пану паслу-пэпэсу Квапіньскаму навет скончыць яго заявы, але адразу заткнуў яму губу, забараніўшы „крытыкаваць склад камісіі, назначанай Міністэрствамі“, і дадаўшы, што яго заява ня будзе навет упісана ў пратакол...** А п. Квапінські на гэта толькі адказаў, што... надрукуе сваю заяву ў газэце „Robotnik“..

Вывад з усяго—зусім ясны: пэпэсы зрабілі ўсё, каб аддаць ізноў, як вясной, усю справу сельска гаспадарскіх работнікаў у рукі ўрадавай „камісіі 3“, якая вынясе свае пастановы — **пасьля таго, як жніво будзе скончана**.. А гэткая камісія вясной, як ведама, шмат панізіла плату сельскім работнікам...

І ці-ж не крывадушным зьяўляецца ўчасьце ў гэткай камісіі паноў пэпэсаў?

Вось гэтая партыя польскіх „сацыялістаў“, спрытна захапіўшы ў часе выбараў беларускае Палесьсе, трымае ў сваіх руках і добрую частку нашых сельскіх работнікаў... Ведайце-ж добра, беларусы-паляшукі, з кім маеце дзела... Бо калі гэтыя „сацыялісты“ прадаюць справу **сваіх польскіх** парабкаў, свайго **роднага** сельскага пралетарыяту, дык якое дзіва, што яны галавой выдалі **беларускага селяніна** польскаму ваеннаму і цывільнаму асадніку?!....

**Дзяцюк.**

*) Артыкул пісаны 2 тыдні таму.

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Польш—чанайдаражэйшая і найбяднейшая дзяржава.

Згодна з урадовымі данымі, цэны на прадукты першай патрэбы ў красавіку і траўні г. г. былі: мука пшон. ў Польшчы—56 зл. 25 гр. у Нямеччыне—40 зл. 56 гр., у Францыі — 42 зл. 44 гр., у Англіі—49 зл. 76 гр., Злуч. Штат. — 52 зл. 67 гр. за 100 кіляграм. Цукар—у Польшчы—1 зл., у Францыі — 68 гр., у Англіі—71 гр., Злуч.-Штат.—67 гр., за 1 кл. Масла — у Польшчы—4 зл. 33 гр., у Нямеччыне—3 зл. 95 гр., у Францыі—3 зл. 19 гр. за 1 кл. Камен. вугаль—у Польшчы—26.60, у Нямеччыне—18.52, Злуч.-Штат. — 10.69 за тонну.

Цяпер пагледзім, колькі прыпадае багацьця ўсяе дзяржавы ў далярах на аднаго чалавека. У Польшчы—4 доляры на чалавека, у Аўстрыі—17 дол., у Чэхаславакіі—18 дол., у Швайцарыі—42 дол., у Вял. Брытаніі—42 дол., у Францыі—53 дол.

Вось, тут як круці не вярці, а цыфры гавораць сваё.

### Кайданы куюцца.

„Głos Prawdy“ паведамляе, што Міністэрства Унутраных Спраў заказала нейкаму Почтару да трох тысячаў кайданоў і то не абы якіх, а панікіляваных. Гэтая „дзейнасьць“ Мін. Унутр. Спраў ма‘ быць таксама залічаецца да „аздараўленьня Крэсаў“. Рэч зразумелая, не хапае кайданоў, а „бунтаўшчыкоў“ прыбывае, і Мін. Унутр. Спраў раскашэлілася.

Напрашываецца пытаньне: няўжо-ж кайданы што памогуць на недахват зямлі ў сялян і на іх дамаганьне роднай школы?..

### Бандыты ў лесе.

Каля маёнтку Парэчча, Дуніл. пав., паліцыя заўважыла хаваючыхся ў лесе 4 бандытаў. Зараз-жа лес быў акружаны, але дагэтуль бандытаў не злавілі. „Слова“.

### Ратаваньне польскага злотага.

У сувязі з падзеньнем пол. злотага прыехаў у Варшаву прэм‘ер Грабскі і прыняў рашучыя крокі, ратуючыя польскі злоты.

### Забойства агента палітычнай паліцыі Ст. Цэхноўскага.

28/VII ў Львове камуніст Ботвін забіў на вуліцы агента п. п. Ст. Цэхноўскага, які выступаў, як сьведка, у вядомым цяперашнім львоўскім працэсе.

Гэты Цэхноўскі ў 1923, як правакатар, уступіў у тэррорыстычную арганізацыю, якою кіравалі Багінскі і Вячоркевіч—і потым выдаў усю арганізацыю паліцыі.

Пры сьледстве Ботвін сказаў, што папоўніў забойства з ідэйных пабуджэньняў, помсьцячы Цэхноўскаму за выкрыцьцё арганізацыі Багінскага і Вячоркевіча.

Ботвін аддадзены пад „даражны“ суд, які засудзіў яго на кару сьмерці, кара выканана 6./VIII ў 1 гадз. дня.

### Арышты ў Горадзеншчыне.

„Dzien. Wil.“ піша, што ў мінулым месяцы было праведзена следзтва, — у справе ліквідацыі дывэрсыйных арганізацыяў у паветах Бельскім, Пружанскім, Ваўкавыскім, Касоўскім і Слонімскім.

У выніку сьледзтва праведзены масавыя арышты. Арыштаваным закідаецца ўдзел у дывэрсыйных арганізацыях. Усіх, якім даказано, што бралі ўдзел у нападах, аддалі пад „даражны“ суд. Быццам маюцца данныя, што асяродак арганізацыі знаходзіўся ў Белавежскай пушчы.

### Польска-савецка ўмова.

3/VIII ў Маскве была падпісана польска-савецкая ўмова аб ліквідацыі гранічных здарэньняў.

Камісія зьбярэцца ў найбліжэйшым часе ў Ямполе на Валыні.

## Польскі злоты на эўрапэйскай біржы.

У канцы прошлага тыдня на ўсіх біржах Эўропы адначасна (як сцьвярдзіла адозва самага ўраду) раптам „заламаўся“ і паляцеў уніз польскі злоты.—За даляр, за які плацілі да таго 5,18 злотых, пачалі трэбаваць, як піша „Robotnik“, 5,50, 5,60, навет—5,70 злотых... (5 злотых і 70 грош.).... Польскі ўрад, вельмі настрашаны гэтым спадкам валюты, хутка прыняў „адпаведныя меры“, і з пачатку гэтага тыдня злоты, здаецца, ізноў пакуль што („narazie“, як кажа „Robotnik“..) вярнуўся да сталага курсу.

Якія-ж прычыны гэтага раптоўнага спадку, гэтай страшнай пагрозы ня толькі фінансавай раўнавазе Польшчы, з такім трудам дасягнутай урадам п. Грабскага? — Бо-ж зразумела, што валютная катастрофа, пры сучасным зацяжным эканамічным крызісе і вельмі крытычным вонкава-палітычным палажэньнем Польшчы, раўнялася-б бяссумліўна дзяржаўнай катастрофе, а ў выніку яе—тым „чацьвёртым падзелам Польшчы“, аб якім усё часьцей піша, як польская, таксама і заграгічная прэса.

Польскі ўрад—у сваіх афіцыяльных камунікатах і заявах тлумачыць гэты часовы спадак польскай валюты „нямецкай інтрыгай“...—„Па камандзе з Бэрліну“ нямецкія агенты адначасна на ўсіх эўрапэйскіх біржах кінулі на рынак вялікшыя масы польскіх злотых, перавышаючыя попыт, і тым самым ня толькі панізілі цану гэтага тавару, але і стварылі навакол яго „атмасфэру панікі“—няверу ў яго вартасьць.. Дзеля таго злоты—ужо сам і пакаціўся яшчэ ніжэй...

Немцы зрабілі гэта перад 1 жніўня дзеля таго, што 1 жніўня якраз — дзень, калі Амэрыка мела падпісаць Польшчы рэшту абяцанай пазыкі—15 міліёнаў... Нямецкі ўдар па польскай валюце мае сувязь, зразумела, і з тэй „мытнай вайной“, якую, як ведама, вядзе з Польшчай Нямеччына.—Унутраных прычын спадку—у самым злотым—няма ніякіх. Так тлумачыць сумны факт польскі ўрад.

У гэтым тлумачаньні ёсьць праўда, але, як заўседы, ня ўся. Трэба-ж разумець, што сусьветная біржа—занадта паважная, занадта „ўсёведаючая“,—бо і арганічна зьвязаная з фінансавым жыцьцём усіх краёў установа, каб яе можна было ашукаць, выклікаўшы „паніку“ недаверыя да якойсь валюты — без запраўды паважных падставаў...

Якія-ж былі (і ёсьць, як сцьвярджала заўседы паважнейшая польская прэса) гэтыя падставы вострага, але „часовага заламаньня веры“ ў польскі злоты на сусьветнай біржы ў прошлым тыдні?

Прычын гэтых — вельмі многа. Галоўныя з іх—эканамічныя, фінансавыя і палітычныя — мы, зразумела, вельмі пабежна тут пералічым.

Галоўны праціўнік усей фінансавай сыстэмы мін. Грабскага—былы мін. фінансаў пас. Міхальскі найляпей і даўно ужо ня толькі ўказаў аснаўную абмылку гэтай сыстэмы, але і прадсказаў — у выніку гэтай абмылковай сыстэмы — няўхільнае „заламаньне польскага злотага“. Аснаўная задача гэтай сыстэмы „санацыі валюты“ тая, што „здаровы польскі грош будуецца на хворай дзяржаўнай гаспадарцы“... У выніку гэтага „ствараецца разьбежнасьць між унутранай набыўчай сілай злотага, якая ўсе слабне“ (бо-ж дарагоўля ўсе расьце), і „стабілізаваным вонкавым курсам злотага“, які, ня гледзячы на катастрафічны гаспадарчы развал краю, усімі штучнымі мерамі—(„паводле клясычных правілаў фінансавай экакоміі“, як гучна кажа толькі што „Кур. Польскі“). на гэтай яго роўні трымаецца „Польскім Банкам“...

І пас. Міхальскі, у сваім ведамым дакладзе ў Сойме прадбачыў, што, калі так пойдзе далей, дык „можна навет з вялікай точнасьцяй аблічыць мамэнт заламаньня курсу злотага“. І аблічыў, якраз на гэты самы мамэнт... нямецкай інтрыгі... Ясна, што руйнуючы гаспадарчае жыцьцё ў краі, але істнуючы стабілізавана толькі дзеля „даверыя заграніцы“ да польскіх фінансаў і значыць—нармальна—да польскага гаспадарчага жыцьця, польскі злоты зьмяшчаў у сабе ўнутраную супярэчнасьць, якая, як правільна сцьвярдзіў і прадбачыў п. Міхальскі, павінна ў хуткім часе раскрыцца ў яго „вонкавую катастрофу“...

Выражэньнем гэтай блізячайся катастрофы і зьяўляліся ўсе ўзрастаўшыя дэфіцыты (недахваты) гаспадарчага балянсу краю. Гэта значыць, што з прычыны дрэннай уласнай гаспадаркі і слабай уласнай прадукцыі Польшча больш увозіць з заграніцы, як вывозіць; — дзеля таго ў агульным рахунку з заграніцай пераплачывае ёй значныя грошы. І вось, гэтыя пераплаты лянівага і адсталага, але затое „панскага“, бо выфранчанага ў заграічныя вопраткі і спажываючага замежныя фрукты і віна, — краю павінен скуль небудзь пакрываць скарб польскай дзяржавы. На колькі вялікія гэтыя пераплаты, відаць з пададзеных у свой час афіцыяльных лічбаў. За першыя 5 месяцаў гэтага году Польшча агулам пераплаціла заграніцы 350 мільёнаў злотых, а ў чэрвені і ліпні гэтыя пераплаты дайшлі ўжо да 100 мільёнаў на кожны месяц. Насколькі дрэнна вядзецца і рэгулюецца ўрадам польская гаспадарка, відаць найярчэй з таго, што, гэты перад усім земляробскі край, напрыклад, у траўні месяцы гэтага году купіў заграніцай на 40 мільёнаў аднэй толькі мукі. Гэта-ж—дзеля таго, што ня гледзячы на неўраджай, урад дазволіў у прошлым годзе, (фактычна кіруючым урадам) абшарнікам вывезьці з краю, дый вельмі танна (затое — падвысіўшы цану збожжа ў краі!) вялікую колькасьць хлеба.

Можна запытацца, скуль-жа бярэ скарбнік польскай дзяржавы грошы на пакрыцьцё гэтых гаспадарчых недахватаў, якія ўсё павялічваюцца ў краі. Дык зразумела, што пры адсутнасьці наагул замежнага крэдыту — польскі ўрад павінен пакрываць гэтыя недахваты з грашовых запасаў польскага дзяржаўнага скарбу, пакуль яны ёсьць. А якраз, як ведама, гэтымі запасамі і забясьпечаны, ці стабілізаваны — польскі злоты. Дык кожны цяпер чытач і зразумее добра: 1) цесную сувязь краёвай гаспадаркі з дзяржаўнымі фінансамі, ча-

# Беларусы у Літве.

У апошніх днях ліпня ў Коўне адбыўся сход Беларусаў пад старшынствам Цьвікевіча. На сходзе паміж іншым праведзены выбары сяброў у „Беларускі Нацыянальны Камітэт". Выбраны: Цьвікевіч, Грузьлей і Якавюк.

Абгаворваліся на сходзе таксама літоўска-беларускія адносіны, і праведзена рад пастановаў аб палітычнай дзеяльнасьці Беларусаў. На сходзе бралі ўдзел выбітныя літоўскія грамадзкія дзеячы.

# Заграніцай.

### Вугальны крызіс у Англіі.

Пагражаўшы агульнай забастоўкай і гаспадарчым крахам краю канфлікт англійскіх вугальных работнікаў з уласьнікамі копяў, дзякуючы ўмяшацельству ўраду, часова разьвязаны. Але гэты пасьпех вельмі дорага каштаваў англійскаму скарбу, які выдаў вугальным прамыслоўцам каля 100 мільёнаў даляраў дапамогі, каб толькі яны не звальнялі работнікаў і павялічывалі тым і без таго страшэнна пагражаючую эканамічнаму і сацыяльнаму ладу ў краі—арміі безработных, якіх усё роўна прыйшлося-б ураду падтрымліваць грашова.

### Веча пасла Кахановіча.

19/VII ў Менску ў „Доме культуры" адбылося веча, на якім пас. Кахановіч сказаў прамову, пасьвечаную дзеяльнасьці беларускіх арганізацыяў і дзеячоў у Польшчы.

### Марокская вайна.

Французскія афіцыяльныя весткі аб уласных „пабедах" аказаліся, як і трэба было спадзявацца, хлусьнёй. Апошнія весткі праз Лёндан кажуць, што Абд-Эль-Крым распачаў новае наступленьне, якое ўжо дала вельмі небясьпечныя для французаў рэзультаты. Ёсьць весткі, быццам навет рыфэны прарвалі французскі фронт.

Не памагло і тое, што французскі ўрад паслаў на „тэатр вайны" аж 3 галоўнакамандуючых. З іх маршал Пэтэн ужо вярнуўся ў Парыж, і, відаць, яго даклад аб становішчы Францыі ў Марокко быў вельмі непацяшаючы, бо адразу ў французкай прэсе пачалася кампанія як за найхутчэйшае аканчаньне вайны. Як ведама, сьпярша за неадкладнае спыненьне вайны былі адны толькі камуністы, якіх за гэта лаялі ўсе іншыя партыі, захапіўшыся „патрыятызмам" (ці вярней — імпэрыялізмам). Але толькі што пастанову аб безадкладным канцы вайны зрабілі і французскія сацыялісты. Але вось, паказальней усяго, што ў гэтых днях газэта „Новая Эра", орган тых самых радыкалаў, з якіх складаецца большасьць французскага ўраду, газэта, якая лічыцца асабістым органам міністра Кайо (фінансы), зьмясьціла артыкул, у якім таксама лічыць канешным спыніць чым хутчэй вайну, якая можа толькі зруйнаваць дарэшты Францыю. Цяпер французская прэса толькі і піша аб тым, што адкажа Абд-Эль-Крым на запрапанаваныя яму ўжо супольна з Гішпаніяй варункі міру.

Але ён неяк выкручываецца дагэтуль ад адказу, ня хоча навет афіцыяльна пачынаць перагавораў, а пакуль што б'е французаў, кажучы, што дагэтуль ён яшчэ навет і ня пускаў у дзела свае рэгулярнай арміі — бо хавае яе на канец—для апошняга ўдару. Пакуль што—барацьба ідзе толькі партызанская. Гэтыя партызаны толькі што аднясьлі значную пабеду, разьбіўшы значны гарнізон важнага французскага места, высадзіўшы ў паветра вялікія запасы амуніцыі. Можна наагул сказаць, што Францыі пагражае той-жа лёс, які ўжо спаткаў Гішпанію, бо не памог навет ваенны саюз з апошняй, а навет толькі пагоршыў справу. А тут яшчэ ізноў загарэлася паўстаньне проці ўлады Францыі ў Сірыі. Прыдзецца Францыі заключаць мір з рыфэнамі на варунках, якія прадыктуе Абд-Эль-Крым.

### „Пакт бясьпечнасьці".

Нешта рашучае робіцца навакол гэтага спрытна высунутага Нямеччынай праекту дагавору Англіі і Францыі з Нямеччынай аб забясьпечаньні франка-нямецкае граніцы.—На французскую ноту ў гэтай справе Нямеччына адказала рашучым пратэстам проці раду французскіх варункаў гэтага пакту.

Але пад магутным націскам Англіі Францыя, відаць, павінна будзе згадзіцца на нямецкія дамаганьні—коштам свае саюзьніцы Польшчы.

Апошняя прамова англійскага прэм'ера аб гэтым пакце рашуча стала на бок Нямеччыны, пагражаючы Францыі разрывам. „Паразуменьне з Нямеччынай — першы варунак адбудовы Англіі", сказаў Балдвін.

Далей ён цалком падтрымаў тое месца ў нямецкай ноце, дзе нямецкі ўрад кажа, што толькі тады Нямеччына пойдзе на пакт з іншымі дзяржавамі, калі ёй будзе гарантавана роўнасьць правоў, а гэтая роўнасьць будзе магчыма толькі тады, калі Францыя будзе таксама разброена, як Нямеччына, або Нямеччына—таксама азброена, як Францыя.

Становішча Англіі, націскаючай на Францыю і з боку фінансавага (трэбуючы звароту даўгоў), выклікала страшэннае абурэньне ў-ва Францыі, але, што Францыя змушана будзе ўступіць, відаць хаця-б з тэй страшэннай лаянкі, якую раптам падняла проці яе „найбольш французская" дагэтуль з усіх польскіх газэтаў „Газ. Варш".

Вось што піша гэты орган эндэцыі.

„Уступкі Францыі былі-б раўназначны з скасаваньнем істнуючых паміж Польшай і Францыяй умоваў.

А гэта змусіла-б польскую палітыку зрабіць з гэтага факту ўсе належныя вывады"....

Тое, што робіцца ў лоне французскага ўраду, „пачынае будзіць недаверые да Францыі ў польскім грамадзянстве, ставячы перад вачыма польскага народу факт, што Польшча павінна апірацца толькі на самую сябе, гэта значыць—толькі на свае ўласнай унутранай сіле і на свае арміі"...

Дзіва, што польскі злоты так пужаецца на эўрапэйскай біржы.. польскай арміі..

### Прыгатаўленьні Саветаў.

У Маскве пад старшынством Дзяржынскага адбылася нарада камітэту абароны. Пастаноўлена зарэгістраваць усіх мужчынаў ад 1887—1902 г. г. і правясьці пробную мабілізацыю некалькіх гадоў прызыўных.

# Заместа вянка на магілу Т. Врублеўскага.

(*Пісьмо ў Рэдакцыю*).

Глыбокі жаль агарнуў нас, палітычных вязьняў Віленскага вастрогу (Лукішак), калі дайшла да нас сумная вестка аб сьмерці нашага шчырага абаронцы і выдатнага прамоўцы Т. Врублеўскага.

Т. Врублеўскі бадай першы з польскай інтэлігенцыі меў адвагу і моц адкінуць пануючы польскі шовінізм, пабачыць і другім сьляпым паказаць пакрыўджаных і паняволеных у сучаснай Польшчы, першы з першых сьмела і адкрыта стаць у абароне нацыянальных меншасьцяў і працоўнае клясы ад разбушаваўшайся польскай буржуазіі.

Сярод нас ёсьць вязьні, якіх калісь бараніў Т. Врублеўскі перад крывавым царызмам, бараніў-жа іх і перад сучасным судом т. наз. дэмакратычнай Польшчы. .

Т. Врублеўскі спагадаў нам, бо ведаў, за якую і чыю волю мы змагаемся — вось, дзеля чаго Ён, ня гледзячы на свой пажылы век, у апошнія часы памножыў сваю трудную дзейнасьць абаронцы барацьбітаў за гэтую сапраўдную волю.

Слаўная дзейнасьць абаронцы і грамадзкая чэснасьць Т. Врублеўскага ёсьць найдаражэйшы памятнік і найсьвятлейшы ўспамін для ўсіх прасьледаваных, вызысківаных і прыгнечаных.

### „Правда" аб палітыцы Англіі.

Маскоўская газ. „Правда", абгаворваючы палітыку Англіі, канстатуе работу Англіі проціў СССР. Работа гэтая праяўляецца ўсюды: выспа Эзэль моцна фортыфікуецца, на Аландскіх выс. будуюцца базы для падводных лодак, праліву з Паўночнага ў Балтыцкае мора паглыбляюцца для праходу дрэдноўтаў. У Латвіі і Румыніі англійскія ахфіцэры аглядаюць арміі. Румынія атрымала ад Англіі вялікія крэдыты для ваaружэньня проці С. С. Р. Р.

Але, кажа „Правда", гэта ўсё дарма, бо проціў Англіі пралетарыят усіх краёў.

### Радавыя манэўры.

„Вил. Утро" кажа, што менская прэса піша аб манэўрах у Вітэбшчыне і Смаленшчыне. Манэўры, відаць, зьяўляюцца дэманстрацыяй проці Польшчы. Магчыма, што і гэта мела ўплыў на спадак польскага злотага.

### Паўстаньне друзаў у Сірыі.

У Суэйдзе ў Сірыі дайшло да крывавых сутычак паміж друзамі, напаўшымі на французскі камісарыят, і французамі. Французы пачынілі рашучыя меры ў адносінах да друзаў. У выніку сутычак—людзкія ахвяры. Відаць, незадаваленьне французамі сярод калёніяў расьце.

### Канфэрэнцыя па кітайскаму пытаньню.

Увосені ў Пекіне мае адбыцца канфэрэнцыя Злучаных Штатаў, Ангілі і Японіі ў справе экстэрыторыяльнасьці ў Кітаі.

---

го ніяк ня хоча зразумець польскі ўрад; 2) зразумее і тое, што, як казаў п. Міхальскі, руйнуючы краёвую гаспадарку, польскі злоты тым сам гатуе сабе тую-ж самую руіну.

І калі—у выніку гэткай урадавай гаспадаркі на дзень 20-га ліпня ў „партфэлі" Польскага Банку апынулася толькі на 90 мільён. злотых гэтага „запасу заграні́чных валютаў *)" (даляраў, фунтаў, франкаў і г. д.), якімі ўрад плаціць заграніцы за перавышку ўвозу над вывазам, а толькі ў ліпні гэтых пераплатаў трэба пакрыць аж на 100 мільёнаў; дык, зразумела, што мамэнт аказаўся надта адпаведным для... „нямецкай інтрыгі".

Аднак-жа, каб, ня гледзячы ні на што, усё-ж такі ўтрымаць злоты на яго пачатнай роўні і не пачаць ізноў так-званай „інфляцыі"—друкаваньня незабясьпечаных золатам, ці горш пакрытых злотых, якім тады пагражаў-бы лёс даўнейшай маркі, міністар Грабскі, побач з гарантаванымі (запасам золата і заграні́чных валютаў) злотымі Польскага Банку, выпусьціў ўжо „ад сябе" нічым непакрытыя, але папросту „гарантаваныя скарбам" (акурат таксама, як і былыя маркі) — „білеты скарбовыя", ці „здавковыя" і так-званага „білёну" (непаўнацэннай манэты) без пакрыцьця — „для разьмену" на вельмі значную суму,—якраз дзеля таго, каб гэтымі атрымаўшымі прымусовую вартасьць у краі грашмі пакрываць патрэбы скарбу ўнутры краю, пакідаючы злоты, як паўнацэнную, гарантаваную золатам валюту для разрахункаў з больш незалежнымі ад польскага ўраду контр-агентамі, а перад усім—з заграніцай.

Пры гэтым польскі ўрад, прымусова плоцячы гэтымі ня маючымі валютнай вартасьці на заграні́чнай біржы „здавковымі" грашамі залежным ад яго асобам і ўстановам (як сваяму чыноўніцтву, пастаўшчыкам і розным краёвым установам), абвясьціў, што сам ён, урад, яго скарбовыя і наагул урадовыя ўстановы, гэтых новых грошаў (ня злотых) прымаць нароўні з злотымі ня будзе. „Часовым", як думаў урад, выпускам гэтых новых „марак" урад мае надзею абярнуцца ў гэты найцяжэйшы для скарбу і краю час — да рэалізацыі (прадажы заграніцу) новага ўраджаю. Але, пад супольным націскам усіх тых асобаў і ўстановаў ў краі, якіх польскі ўрад пачаў крыўдзіць, змушаючы іх да браньня аб'яўленых „роўнымі злотаму" новых грошаў і адначасна адмаўляючыся сам прынімаць іх—нароўні з злотым, а перад усім—з прычыны спадку вартасьці гэтых новых грошаў на ўнутранай біржы ў параўнаньні з злотым, урад пасьля загадаў скарбовым установам прымаць гэтыя новыя паперкі нароўні з злотым.

Але ўся гэтая гісторыя, уся гэтая розьніца як быццам „дзьвюх валютаў", — аднэй, пакрытай золатам; другой, пакрытай толькі словам і скарбам Польскай Дзяржавы,—усё гэта, зразумела, адбілася на заграні́чнай біржы — пэўнай асьцярогай да польскай валюты, асьцярогай, якая, як паказана вышэй, мела ўсе падставы—у дрэннай, руйнуючай край урадавай гаспадарцы ў краі...

Дык дзіва, што якраз у найцяжэйшы мамэнт добра вымераны ўдар, можа, і нямецкіх агэнтаў на сусьветнай біржы адразу зрабіў сваё, і польскі злоты адразу значна паляцеў уніз.

---

Але ня можа быць ніякага сумліву ў тым, што пасьпех гэтай „нямецкай інтрыгі" быў у значнай меры азначаны і агульнымі палітычнымі абставінамі, якія, як кожны чуе і разумее, выклікаюць патроху, але ўсё больш рашуча, нейкі грунтоўны перагляд, калі не пераварот, палітычных адносінаў у Эўропе.

Мы тут ня будзем, бо ўжо няма месца, доўга спыняцца на гэтай тэме. Скажам толькі коротка, што ў тэй палітычнай барацьбе, якую вядзе Нямеччына, ужо яўна ў паразуменьні з Англіяй проці Францыі і яе „васалаў", (проці створаных Францыяй у Вэрсалі—за шмат коштам Нямеччыны—новых дзяржаў) у сучасны мамэнт Польшча зьяўляецца так сказаць цэнтральным вузлом спору... ў рэалізацыі (зьдзейсьненьні) так званага „гаранцыйнага пакту" між Англіяй, Францыяй і Нямеччынай Польшча зьяўляецца галоўнай перашкодай... Навет Францыя, як сцьвярджаюць апошнія гвалтоўныя лаянкі па яе адрэсу ў „найбольш франка-фільскай" дагэтуль „Газ. Варшаўскай", навет Францыя хоча падпісаць, на жаль—коштам Польшчы—гэты „пакт", які гарантуе ёй—Францыі—яе граніцы... І Англія і Францыя чуюць зашмат балюча сілу варожай да іх Нямеччыны (ня кажам ужо аб Расеі)... і хочуць перарабіць яе за ўсялякую цану! з ворага на прыяцеля. І толькі адна Польшча ім у гэтым перашкаджае...

Дык вось у такіх абставінах — вельмі зразумела тая лёгкасьць, з якой на ўсіх эўрапэйскіх біржах мела аднолькава бліскучы пасьпех „нямецкая інтрыга", якая мела мэтай — паказаць усяму сьвету, а перад усім... самай Польшчы яе слабасьць, — дык і яе залежнасьць ад гэтага „сьвету"...—і гэтым змусіць яе да ўступак...

---

Польская прэса слушна піша, што за свой „прапаўшы дарма" ўдар Нямеччына заплаціла вельмі дорага, страціўшы на гэтым біржавую атаку на польскі злоты вялікія сумы. Бесьпярэчна, гэты агітацыйны біржавы ўдар па Польшчы каштаваў нямецкаму ўраду значна больш таго, што каштуе польскаму цяпер... „агітацыя ў прэсе" — краёвай і замежнай—на паралiжаваньне ўражаньня ад гэтага ўдару...

Але-ж кожная агітацыя, як кожная барацьба, ці вайна, каштуе перад усім грошаў.

Ці так ужо—зусім дарма прапаў гэты ўдар, гэта цяжка сцьвярдзіць напэўна. Чаму?—у частцы, гэта ясна з усяго, сказанага вышэй; у частцы, — з таго, што, як піша ўкраінская прэса, бліжэйшая мэта гэтага нямецкага, а мо' і ня толькі нямецкага ўдару—папсаваць для Польшчы амэрыканскую пазыку—удалася бліскуча...

Ці гэта праўда, ці, можа, гэта — папросту—зласьлівая „гайдамацкая брахня", пакажа бліжэйшы час.

**Кандратовіч.**

Варшава.

*) „Kur. Polski" № 210—2./VIII. 1925 г.

# ХРОНІКА.

**Прывітаньне беларускім дэпутатам.** Беларускія Клюбы ў Сойме („Беларуск. Сялянска-Работніцкая Грамада“ і „Белар. Пасольскі Клюб“) атрымалі ад Рэдакцыі беларускае газэты ў Латвіі „Голас Беларуса„ з прычыны становішча іх у справе закона аб парцэляцыі і асадніцтве гэткую тэлеграму:

„Вітаем змагароў за зямлю і волю“.

**Водгук на сьмерць Т. Врублеўскага.** „Беларускі Камітэт у Варшаве, даведаўшыся аб сьмерці Т. Врублеўскага, просіць далучыць да агульных „хаўтурных званоў“ яшчэ адзін голас—голас беларусаў, прабываючых у Варшаве і згрупаваных пры Камітэце, але ня менш магутны чуцьцём жальбы і суму над магілай вялікага сапраўды чалавека, вялікага і паважанага грамадзяніна ня толькі места Вільні, але і ўсяго Беларуска-Літоўскага краю Тадэуша Врублеўскага. Ня ўміраючая і вечная памяць і чэсьць абаронцы гаротных і пакрыўджаных і змагару за праўду і справядлівасьць“!

**Беларускія дэпутаты** з прычыны прыпыненьня да восені працы Сойму разьехаліся ўжо на лета дахаты. Гэтак беларускае сялянства здалее навязаць беспасярэднія зносіны з сваімі выбранцамі і пачуць ад іх (паскольку дапусьціць улада!) справаздачу аб іх барацьбе ў Сойме за зямлю для нашага працоўнага народу.

**У Віленскай Беларускай Гімназіі.** Падгатоўка да новага школьнага году ўжо пачалася. Сёлета прыбываюць дзьве новыя выдатныя пэдагагічныя сілы дзеля выкладаньня ў старшых клясах: грам. А. Луцкевіч (беларуская літэратура) і А. Трэпка (матэматыка).

Дзеля аблягчэньня падгатоўкі вучням, якія маняцца паступіць у гімназію, надрукаваны падробныя праграмы ўсіх навук, выкладаных у гімназіі. Праграмы гэтыя можна дастаць у канцэлярыі гімназіі (Вострабрамская 9).

Як ужо ведама, дзеля экзаменаў для матурыстаў мае быць назначана ўрадавая камісія, і вучні, здаўшыя добра экзамены перад ёй, мецімуць права на паступленьне ў польскія ўнівэрсытэты. Трэба спадзявацца, што з гэтае прычыны наплыў вучняў у гімназію сёлета шмат павялічыцца, бо беларусы здолеюць і ў свае́й гімназіі здабыць недасяжныя для іх дагэтуль матуры.

**Ад Белар. Навуковага Т-ва.** Таварыства шчыра дзякуе грам. Клемансу Грымуце з в. Матылі, Бэрштанскае гміны, за ахвяраваныя для музэю ім. Ів. Луцкевіча рэчы: каменную сакерку, 6 акамянеласьцяў і 3 манэты.

**З Беларускага Камітэту ў Варшаве.** „На адбытым 15-га ліпня агульным сходзе Беларускага Камітэту ў Варшаве выбраны ўрад Камітэту ў гэткім складзе: 1) Адам Більдзюкевіч — старшыня Камітэту, 2) Іван Пачопка—віцэ-старшыня, 3) Язэп Гапановіч—віцэ-старшыня, 4) Мікалай Грыгаровіч — скарбнік, 5) Гальяш Леўковіч — сэкрэтар, 6) Васіль Бэрзін — (канд.) заст. віцэ-старшыні і сябра ўраду.

У Рэвізыйную Камісію: 1) Аляксандар Уласаў, 2) Рамуальд Земкевіч, 3) Вера Мультан.

Запіс сяброў у канцэлярыі К-ту ў Варшаве, вул. Макатоўска 12, пам. 3, да 3 гадз. пап.—апрача сьвят.

Спадзяемся, што цяпер Камітэт ужо ня будзе служыць паслухмяным арудзьдзем дзеля агідных палітычных авантур у руках розных Ладновых, як было за сумнае памяці гаспадараваньня ў ім п. Дубейкоўскага!..

**Канфіската беларускіх газэт.** Дня 25./VII с. г. па загаду Камісара Ураду на м. Вільню сканфіскавана беларуская аднаднёўка пад загалоўкам „Зорка Беларуса“ за зьмешчаныя ў ёй тры артыкулы: 1) „Ваўкі ў авечай скуры“, 2) „Малыя народы, злучайцеся“ і 3) Сялянская „ідэя-сіла“. Таго-ж дня быў сканфіскаваны цэлы наклад беларускага тыгодніка № 32 „Крупісу“ за верш: „Званіца ў Жодзішках“.

31./VIII. даручаны ў Наваградзкай турме „list wierzytelny“, выданы Галоўнай Камісіяй па выбарам у Сойм гр. Сабалеўскаму на пасла Сойму Рэчы Паспалітай Польскай, узамен выбыўшага пасла Кахановіча.

**Канфіската літоўскай часопісі.** „Dz. Wil.„ падаў, што дня 23.VII была сканфіскавана літоўская часопісь п. з. „Kelias“ з датай 24./VII пад рэдактарствам нейкага пана Ю. Навікаса.

**Зарэгістраваньне статуту.** Дэлегатура Ураду зарэгістравала статут Літоўскага Навуковага Таварыства ў Вільні, мэтай якога ёсьць глыбей зазнаёміцца з жыцьцём і культурай літоўскага народу.

**Выезд з Вільні біскупа Матулевіча.** Газэты паведамляюць, што ў выніку вострае барацьбы польскіх нацыяналістаў віленскі біскуп літвін кс. Матулевіч звольнены папай з свайго становішча.

**Мэтрыкі для прызыўных.** Міністэрства Справядлівасьці выдала распараджэньне аб тым, што мэтрыкі для прызыўных павінны выдавацца бясплатна і без аплаты штэмплёвых збораў.

**Беларускія календары на 1926 год.** На будучы год распачаты ўжо друк беларускага адрыўнога календара на 1926 год—лацінікай і кірыліцай з каталіцкімі і праваслаўнымі сьвятцамі. Гэта—першы беларускі календар гэтага тыпу.

Адначасна падрыхтоўваецца да друку і календар кніжнага фармату.

# Школьныя справы.

## Арганізацыя экскурсіяў у школе.

Экскурсія—гэта ня простая гульня, гэта сур‘ёзная праца, як і праца ў клясе. Толькі тут паміж заняцьцямі ў клясе і заняцьцямі пасярод прыроды ёсьць вялікая розьніца. Гэтыя заняцьці па багацьцю матэр‘ялу і зацікаўленьню вучняў проста непараўнаны з школьнымі. У школе дошкі, крэйда ды якія-кольвек абразкі. Тут-жа пад рукамі вучыцеля тысяча размаітых наглядных дапамогаў, каторых ня можа мець ніводная школа. Тут лес, горы, палі, рэчкі, крыніцы, жывыя птушкі і гэтак далей. Толькі ўмей карыстацца!

Можна вясьці размовы пасярод прыроды бяз пэўнага пляну: аб‘ясьняючы вучням усё, што пападаецца. Карысьць гэтакіх размоваў адкінуць нельга. А калі такім размовам прыдаць пэўную сыстэму, дык эксурсіі будуць мець асабліва важны характар. Апрача маральнага і эстэтычнага здаваленьня, дзеці здабудуць навуковы дасьлед. Экскурсіі даюць такія знаньні, якіх школа даць ня можа. Возьмем розныя зьявы прыроды. Ніякім мастацкім апісаньнем ня можна даць такога паняцьця аб ледаходзе, прабуждзеньні жыцьця леса, дзеяльнасьці вады, як на жывым экспэрымэнце.

Пры выкладаньні ў школе прыродазнаўства экскурсіі нічым замяніць нельга. Ведама, што вучыцель павінен перш сам азнаёміцца з месцам, куды ён жадаець вясьці дзяцей. На ім ляжыць два абавязкі: быць правадніком і кіраўніком. Першы вымагае веданьня дарог і сьцежак дасьледуемае мясцовасьці; другі—знаемства з тым матэр‘ялам, які будзе служыць аб‘ектам досьледу, іллюстрацыяй да размовы.

Як у школе, так і на экскурсіі будзе запэўнены посьпех толькі пры пэўнай дысцыпліне. У час размовы павінна трываць ціша і нярухомасьць. Зразумела, што ў такім стане дзеці даўгі час трываць ня могуць. Пасьля 10 мінутнай размовы трэба даць ім спачыць ня менш мінут 8. (Разумецца пачатковая школа). У мінуты адпачынку вучні карыстаюцца свабодай, шукаюць і разглядаюць самастойна, што жадаюць. Але добра, каб і тут вучыцель скіроўваў увагу дзяцей у напрамку дасягаемае мэты. Пасьля 1—2 гадзін працы трэба даць дзецям поўны адпачынак. Зразумела, што дзеці пачнуць гульні, спеў. Дык вось праца і здаваленьне!

Правільная арганізацыя экскурсіі мае вялікі ўплыў у характары выхаваньня вучняў. Перад выхадам на экскурсію кляса дзеліцца на 10 — 12 атрадаў. Кожны атрад мае свайго старшыню. Кожны вучань добра памятае свае месца ў атрадзе. Калі вучыцель дае аб‘ясненьні, вучні ў парадку атрадамі разьмяшчаюцца перад вучыцелем. Старшыня клапаціцца аб сваім атрадзе. Ен атрымлівае ад вучыцеля аб‘ект і дае разглядаць вучням свайго атраду, а пасьля зьвяртае вучыцелю.

Ён жа заведуе харчамі, узятымі для пасілку. Вучням прапануецца браць пасілак, калі экскурсія мае трываць гадзіны тры-чатыры. Стол бязумоўна павінен быць агульны. Гэта больш усяго разьвіваець прынцып роўнасьці. Кожны вучань аддае свае запасы старшыне. Старшыня дзеліць усе запасы срога пароўну. Калі ўсе атрымаюць свае порцыі і пачнуць есьць, тады толькі старшыні і кіраўнік ядуць. Гэтая вытрываласьць павышае старшыню і кіраўніка ў вочу вучняў. Такія таварыскія атрады, выбарныя старшыні і іх узаіма-адносіны ўсё гэта выкоўвае здаровае з‘яднанае таварыства ў праціва стаднасьці.

**Вучыцелька Холадавічанка.**

(Працяг будзе).

# Карэспандэнцыі.

## Наваградзкае староства агітуе проці беларускае школы.

25 га красавіка 1925 году ў вёску Кайшоўкі, Цырынскай гміны, Наваградзкага павету, прыехалі два ўрадоўцы, якія, зрабіўшы сход, пачалі ўгаварваць сялян, каб адракліся беларускай школы. Гаворачы: „Беларуская школа нічога сялянам ня дасьць, а прынясе вялізарныя страты, бо ўрад гэтай школе дапамагаць ня будзе, і яшчэ мала гэтага, дзе будзе адчынена беларуская школа, дык тыя вёскі не атрымаюць ніякае дапамогі ад ураду, а іменна: ня будуць даваць лесу на адбудову, ня будуць даваць тым сялянам пазычак, а як будзе праводзіцца парцэляцыя грунту, ды зямлі не атрымаюць, і адным словам сяляне, якія жадаюць беларускай школы і роднай мовы, будуць пазбаўлены ўсіх грамадзкіх правоў Рэчы Паспалітай“.

Вось, якія адносіны ўраду да беларускай школы? Вось, як праводзіцца Канстытуцыя ў Польшчы. Мала таго, што на ўсіх дарогах да беларускай школы пастаўлены ўрадовыя рагаткі, дык яшчэ ўрадоўцы раз‘яжджаюць па вёсках і пагражаюць сялянам пеклам за родную школу, а за чужую польскую абяцаюць рай. Але, не зважаючы на іх пагрозы, нашы сяляне кажуць: „Ня хочам мы вашага раю і польскае школы“!..

**М. Няшчасны.**

## „Лягчэй памерці, чым дабіцца ад польскае ўлады роднае школы“.

Не зважаючы на тое, што сяляне вёсак: Дольно-Гародзей, Астровак, Дзярэчынец, Лысіцы і другіх, Нясьвіжскага павету, падалі да школьнага інспэктара ў Нясьвіжу ўсе патрэбныя дакумэнты, сцьвярджаючы жаданьне сялян вучыцца ў роднай мове, пан школьны інспэктар Нясьвіжскага павету асабіста аб‘яжджае вёскі, узяўшы з сабою ня йначай што прадстаўніка ад Нясьвіжскае дэфэнзывы, склікаюць усіх дэклярантаў, дый па адным заклікаюць да асобнае хаты і там робяць дапросы. Хтопісаў дэклярацыі, або адкуль дэклярацыі ўзяты і г. д. А як нашы беларусы ўсе арыштам да паўсьмерці перапалоханыя, то баяцца, каб іх не арыштавалі і пад пагрозай пана інспэктара і яго таварыша адракаліся ня толькі ад беларускае школы, але навет гатовы аддаць апошнюю сярмягу пану інспэктару, каб толькі іх не чапалі і калі ў вёсцы хоць адзін нашоўся трус, які ня прызнаў, што ён мае што-небудзь супольнага з беларускаю школаю, дык тая вёска беларускай школы мець ня будзе. Вось, як праходзіць школьная ўстава ў Нясьвіжскім павеце!..

**М. Няшчасны.**



Выдавец: Я. Туркевіч.

Друкарня Левін і Сын. Вільня, Нямецкая 22.